Пролетарыі усіх краін, еднайцеся!

Орган Часовага Упраўлення Віленскай Акругі

# ВІЛЕНСКАЯ ПРАЎДА

№ 3
24 верасня 1939 г.
нядзеля

# У брацкім саюзе з народамі СССР будзем будаваць сваё радаснае і шчаслівае жыццё!

## Да ўсіх сялян і сялянак Віленскай акругі.

Дарагія таварышы!

Наша доблесная Чырвоная Армія, Армія Вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, ажыццяўляючы гарачае жаданне беларусаў і ўкраінцаў, а таксама працоўных палякаў і яўрэяў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, дапамагла вам аслабаніцца ад гнёту і кабалы польскіх памешчыкаў і капіталістаў, ад цягот імперыялістычнай вайны, у якую ўцягнуты былі народы Польшчы жорсткімі, неразумнымі і труслівымі правіцелямі Польшчы.

Зараз сам народ — працоўныя Заходняй Беларусі і працоўныя Заходняй Украіны — з'яўляецца гаспадаром свайго лёсу. На Усеагульным сходзе працоўных будзе ён рашаць, якую форму ўлады ўстанавіць. Такі Ўсеагульны сход у недалёкі час будзе склікан. А пакуль што на тэрыторыі Віленскай акругі створана Часовае Упраўленне, якое прызвана к таму, каб забяспечыць арганізацыю парадку ў раёнах, аслабанёных ад панскага гнёту.

Часовае Упраўленне Віленскай акругі звяртаецца да вас, сяляне з наступным:

Не прыслухоўвайцеся да ўсялякіх плётак, якія распаўсюджваюцца ворагамі народа.

Арганізуйце сялянскія камітэты. Абярыце ў іх тых, хто будзе сапраўды абараняць інтарэсы працоўных.

На агульных сходах сялян абмяркуйце пытанне аб зямлі. Памешчыцкія, манастырскія землі, аблітыя потам і крывёю працоўных, павінны належыць сялянам-беднякам і серднякам. Прыступайце да размеркавання памешчыцкіх зямель паміж батракамі, беднякамі і серадняками! Рашуча змагайцеся супроць тых, што будуць перешкаджаць гэтаму!

Памятайце, што зямля, сядзібы, маёмасць, аднятыя ў памешчыкаў і манастыроў, належыць працоўнаму народу.

Не дапускайце падпалаў маёнткаў, парубак лясоў, разграблення маёмасці сядзібаў і манастыроў! Усё гэта народнае дабро вы павінны берагчы.

Праяўляйце высокую рэволюцыйную свядомасць і ўсе пытанні рашайце арганізаваным парадкам.

Арганізуйце рашучую барацьбу з усімі тымі, хто захоча дэзарганізаваць, нарушыць нармальнае жыццё як горада так і вёскі. Вядзіце самую рашучую барацьбу з фактамі спекуляцыі і марадзёрства. Арганізуйце масавы прывоз сельскагаспадарчых прадуктаў (хлеб, мяса, гародніна і інш.) на гарадскія і мястэчковыя базары.

Ажыццяўленне ўсяго гэтага забяспечыць нармальнае жыццё працоўных горада і вёскі, створыць неабходныя ўмовы для развіцця прамысловасці, якая будзе бесперабойна забяспечваць гарады і вёскі прамысловымі таварамі.

Нармальны прыток з вёскі сельскагаспадарчых прадуктаў у гарады і мястэчкі забяспечыць таксама нармальную работу культурных установ, школ, бальніц, што асабліва важна як для працоўных горада так і для сялян.

Усе вышэй пералічаныя мерапрыемствы створаць спрыяльныя ўмовы для таго, каб рыхтавацца да вялікіх спраў, якія трэба будзе вырашыць працоўным беларусам, украінцам, палякам, яўрэям Заходняй Беларусі.

Старшыня Часовага Ўпраўлення Віленскай акругі
**А. Я. Жылянін**

## ПАСТАНОВА
### Часовага Упраўлення Ваеннага Совета па Віленскай Акрузе

У апошнія дні па гор. Вільно мелі месца выпадкі ўзброеных дыверсій і вылазак цёмных контррэволюцыйных элементаў, нарушаючых рэволюцыйны парадок, нападаючых на патрулі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, Рабочай Гвардыі і грамадзянскае насельніцтва горада.

У сувязі з гэтым Часовае Упраўленне пастанаўляе:

1. Усіх замечаных у дыверсіенных, контррэволюцыйных вылазках элементаў неадкладна арыштоўваць і прэдаваць ваенна-палявому суду.

2. Домоўласнікаў і дворнікаў, дапускаючых скрывацца ў дамах і дварах узброеным невядомым асобам, арыштоўваць і прэдаваць ваенна-палявому суду, як саўдзельнікаў контррэволюцыйных выступленняў.

3. Часовае Упраўленне Вайсковага Совета заклікае ўсіх працоўных гор. Вільно аказваць садзейнічанне органам Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Чырвонай Гвардыі ў выяўленні контррэволюцыйных элементаў, асеўшых у горадзе.

Таварышы працоўныя!

Каму дорага мірнае, спакойнае жыццё актыўней змагайцеся за ўстанаўленне рэволюцыйнага парадку ў горадзе і акрузе!

Старшыня
Часовага Упраўлення
Ваеннага Совета
па Віленскай акрузе
**Я. А. Жылянін.**

24 верасня 1939 г. г. Вільно.

## ПАСТАНОВА
### Часовага Упраўлення Ваеннага Совэта Віленскай акругі ад 23-IX 1939 г.

У сувязі з вялікім наплывам насельніцтва з другіх мясцовасцей Польшчы ў горад Вільно, горад аказаўся выключна перапоўнены насельніцтвам, што прыводзіць к цяжкасцям у справе ўстанаўлення парадку ў горадзе, забеспячэння прадуктамі гарадскога насельніцтва і стварае пагрозу масавых эпідэмічных захворванняў.

Часовае Упраўленне Ваеннага Совета прапануе ўсім грамадзянам, прыехаўшым у г. Вільно з пачатку ўступлення Польшчы ў вайну, выехаць з горада на іх ранейшае месца жыхарства.

Грамадзянам, месца жыхарства якіх занята нямецкімі войскамі, выехаць у сельскія сяленні і мястэчкі Віленскай акругі. Тэрмін выезда з горада да 26 верасня 1939 г.

Старшыня
Часовага Упраўлення
Ваеннага Совета
Віленскай Акругі
**Я. А. Жылянін.**

23 верасня, г. Вільно.

## Чырвоная армія нясе нам шчасце

Польскія паны і капіталісты ўцягнулі народы Польшчы ў крывавую вайну, якая патрэбна была толькі панам, але зусім непатрэбна была працоўным. Вайна гэта завяла краіну ў тупік, знішчыла дзесяткі тысяч людзей.

Працоўныя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, пакінутыя польскім урадам, не бачылі выхада са склаўшагася становішча.

Але нас не пакінуў родны наш вялікі Совецкі народ, які працягнуў нам сваю брацкую руку дапамогі. Чырвоная Армія вызваліла нас ад шматгадавага панскага гнёту. Чырвоная Армія нясе нам шчасце, радаснае жыццё. Ад шчырага сэрца дзякуем Чырвонай Арміі, вялікаму і раднаму правадыру працоўных усяго свету таварышу Сталіну за вызволенне ад польскай кабалы.

Працоўныя Заходняй Беларусі, як і працоўныя Заходняй Украіны хочуць жыць і будуць жыць з працоўнымі Совецкага Союза шчаслівым і радасным жыццём.

Рабочы завода „Электрыт"
**Каган Хаім.**

## Уключымся ў будоўлю краіны соцыялізма

Тут у Вільно, гэтак блізка ад родных граніц вялікага Совецкага Саюза мы пры наглуха зачыненых дзвярах і вокнах правадзілі гадзіны ля радыёпрыёмнікаў, стрымліваючы дыханне, лавілі мы кожнае слова пасылаемае ў эфір з Масквы, Мінска, Кіева і горада Леніна.

Мы сачылі за ростам і творчым росквітам краіны Советаў. Мы вучыліся з вамі і спявалі вашы спевы. Гэтыя спевы былі і нашымі спевамі. Нам блізкім быў бой гадзінніка з крэмлёўскай вежы і шум руху Чырвонай плошчы.

А калі задрыжэлі ў нас маставыя ад магутных танкаў і грозных броневікоў, калі з грохатам пранасіліся мотарызаваныя часці Чырвонай Арміі, па ўсім гэтым мы ўбачылі жалезную волю совецкага чалавека і несакрушальную магутнасць Совецкага Саюза.

Тут, на працягу доўгіх год нечуванага ўціску і эксплаатацыі, зверскай нацыянальнай палітыкі і ўсё растучага беспрацоўя, мы ведалі аб тым, як радасна жыве і працуе совецкі народ.

І цяпер, калі Совецкі Саюз працягнуў нам братэрскую руку дапамогі, і калі адзіная самая дэмакратычная ў свеце — Сталінская Канстытуцыя — стала нашай, мы бязмежна шчаслівы тым, што і мы нарэшце ўключымся ў вялікую будоўлю краіны соцыалізма.

**Сяргей Інсараў**

## Ансамбль беларускай песні і пляскі выехаў у Заходнюю Беларусь

Ансамбль беларускай народнай песні і пляскі ў саставе 60 чалавек прыбыў у размяшчэнне часцей беларускага фронта. Ансамбль наведае рад гарадоў і насялёных пунктаў Заходняй Беларусі і азнаёміць байцоў Чырвонай Арміі і працоўных з беларускімі народнымі песнямі, плясками і песнямі совецкіх кампазітараў. (БелТА)

## Сход у мястэчку Вязна

У мястэчку Вязна (Заходняя Беларусь) адбыўся агульны сход, на якім прысутнічала 1500 чалавек — жыхароў мястэчка і сялян вакольных вёсак. З выключнай радасцю сустрэлі прысутныя прыбыўшых на сход прадстаўнікаў Чырвонай Арміі. Доўга грымела „ура", раздаваліся прывітальныя воклічы ў чэсць доблеснай Чырвонай Арміі, у чэсць большэвіцкай партыі, совецкага ўрада і правадыра народаў таварыша Сталіна.

Старшынёй схода была абрана сялянка-батрачка Ефрасінія Бельская.

Адзін за другім паднімаліся працоўныя на трыбуну. З вялікім натхненем гавораць яны аб Чырвонай Арміі, аб вялікім Совецкім Саюзе, аб Совецкім Урадзе, якія ў самую цяжкую мінуту падалі ім руку дапамогі.

Сямідзесяцігадовы селянін-беларус Грыгорый Абросінак хвалючыся гаворыць:

— Амаль тры чвэрці века пражыў я ў горы, пакутах і цёмры, пад цяжкім невыносным прыгнётам паноў. Мяне ніхто за чалавека не лічыў. Я быў рабом. І толькі зараз над намі ўсходзіць светлае сонца праўды і шчасця. Чырвоная Армія вызваліла нас ад голада і галечы, ад панскай нагайкі. Толькі зараз пачынаецца маё сапраўднае жыццё, мая моладасць. Няхай-жа жыве доўгія годы той, хто клапоціцца аб працоўных усяго свету, хто дае нам шчасце і радасць, вялікі чалавек у Маскве — родны і любімы **Іосіф Сталін!** Вялікае дзякуй яму.

Словы старога тонуць у криках „ура", апладысментах і воклічах „няхай жыве таварыш Сталін!".

Усяго выступіла 12 чалавек.

На сходзе створан сялянскі камітэт, у які выбрана 18 чалавек. У саставе камітэта сяляне: Грыгорый Абросінак, Ефрасінія Бельская і другія.

Камітэту даручана неадкладна вырашыць пытанні аб раздзеле канфіскаванай памешчыцкай зямлі, аб надзеле беззямельных зямлёй і бескароўных — каровамі. Унесена прапанова аб адкрыцці ў доме памешчыка беларускай школы.

У прынятай рэзалюцыі сяляне дзякуюць Совецкаму ўраду, роднай Чырвонай Арміі за вызваленне з-пад панскага ярма, вітаюць вялікага Сталіна, главу Совецкага ўрада таварыша Молатава, жалезнага наркома абароны маршала Совецкага Саюза таварыша Варашылова.

(БелТА)

## Пачалі падзел зямлі

Батракі князя Радзівіла маёнтка Малеўшчына (Заходняя Беларусь) пачалі падзел зямлі. У князя Радзівіла апрача гэтага маёнтка ў Новагрудскім ваяводстве было 12 маёнткаў. Ён уладаў 90 тысячамі гектараў зямлі. Зараз гэтага ненавістнага эксплаататара няма.

Батракі дзякуюць Чырвоную Армію, якая прынесла ім новае, свабоднае жыццё.

Апрача зямлі батракі таксама падзялілі насенне. Цяпер у іх ёсць зямля і ёсць чым яе засеяць.

* * *

У мястэчку Скала (Заходняя Украіна) створана Часовае ўпраўленне. У састаў яго ўвайшлі прадстаўнікі працоўных украінцаў і яўрэяў. Упраўленне праводзіць масава-палітычную работу, клапоціцца аб забеспячэнні беднякоў харчаваннем, палівам і т. д.

На вуліцах часта можна бачыць маладых людзей з чырвонай павязкай на руцэ — гэта ўноў арганізаваная дабравольная міліцыя, якая падтрымлівае парадак.

З велізарным інтарэсам слухаюць жыхары маленькага мястэчка расказы аб жыцці ў Совецкай краіне. Некаторыя з іх набылі „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", брашуры з матэрыяламі XVIII з'езда большэвіцкай партыі.

У вёсках Беразанка, Збрыш і інш. арганізаваны сялянскія камітэты.

У Беразанцы адкрыта хата-чытальня. Заўсёды яна перапоўнена людзьмі. Сяляне прыходзяць паслухаць чытку газет. Сюды штодзённа дастаўляецца „Правда", „Советская Украина" і іншыя газеты. Праведзена гутарка аб брацкай дапамозе Совецкага народа працоўным Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. На сценах хаты-чытальні — партрэты Сталіна і кіраўнікоў партыі і ўрада.

Сяляне ад усей душы дзякуюць Совецкаму народу за брацкую дапамогу, за вызваленне ад панскага ярма.

(БелТА)

## З радасцю выконваю абавязак чырвонага воіна

Байцы, камандзіры і палітработнікі нашай гераічнай Рабоча-Селянскай Чырвонай Арміі з чэсцю і са славай выконваюць свой інтэрнацыянальны доўг. Чырвоная Армія аказала дапамогу працоўным Заходняй Беларусі ачысціць радную зямлю ад польскіх паноў, памешчыкаў і капіталістаў.

Байцы нашай Чырвонай Арміі паказалі многа прыкладаў геройства і адвагі ў барацьбе на агнявых пазіцыях. Кожны з нас, не шкадуючы свайго жыцця, з імем Сталіна на вуснах кідаўся ў няроўны бой з часцямі польскіх войск і заўсёды выхадзіў пераможцам.

Наша грозная і магутная механіка сакрушала ворагаў, змятала са свайго шляху супраціўленне польскіх войск. Асабісты гераізм байцоў Чырвонай Арміі, якая ішла на дапамогу працоўным, заўсёды паказваў ўзоры высокага майстэрства валодання баявой тэхнікай, ведання пастаўленных задач.

Працаўныя, насельніцтва гарадаў, мястэчак і сёл сустракалі чырвоных воінаў з вялікай радасцю. Амаль паўсямесна нашы байцы сустракалі цёплы прыём, нашы баявыя машыны закідваліся яркімі восеньскімі кветкамі.

Часта нас сустракаць выхадзілі цэлыя вёскі і мястэчкі. Маладыя дзяўчаты, пажылыя жанчыны байцам дарылі букеты кветак і са слязамі радасці дзяквалі Совецкі ўрад за аказаную ім дапамогу ў вызваленні ад панскай кабалы і памешчыцкага гнёту.

У памяці нашых чырвоных воіноў надоўга застануцца радасныя сустрэчы часцей Чырвонай Арміі з насельніцтвам гарадоў і вёсак. Старыкі селяне-беларусы абдымалі, цалавалі байцоў, дапамагалі нам, указвалі дарогу.

Мы з чэстю выканалі свой інтэрнацыяльны доўг і дапаможам працоўным нашай роднай беларускай зямлі канчаткова ачысціцца ад польскіх паноў.

Працоўныя Заходняй Беларусі будуць жыць у брацкай сям'е Совецкага народу. Ніколі больш родная беларуская зямля не будзе падзелена ніякай граніцай.

**М. Г. Шведаў**
*Лейтэнант N танкавай часці.*

